


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (1135) ГОД XXII БЕЛАСТОК 27 ЛІСТАПАДА 1977 г. ЦАНА 60 гр.



## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК




Не здзіўляйцеся, ёсць на Беласточчыне вёсачка з такою правакуючай назвай, і то зусім прыстойная вёсачка. Трапіць у яе не цяжка: па шашы з Міхалова ў Ялоўку недзе ў 12 кіламетрах за Міхаловам, г.зн. у двохтрох кіламетрах за вёскай Юшкаў Груд, вы паварочваеце направа і перад вамі Бахуры з іх амаль шасцюдзесяццю гаспадаркамі, на якіх жывуць **Буйкі, Вароны, Ваўкі, Гавеньчыкі, Кардашы, Мурашкоўскія, Прылажынскія, Рубчэўскія, Турлінскія.** І ні за адным з іх не лічыцца „нелегальнае“ нараджэнне, бо ні калісьці, ні цяпер гэтая ўтульная і працавітая вёсачка ў вырошчванні бахуроў не спецыялізавалася.

Ва ўсім вінавата гісторыя мовы, а дакладней няспынны працэс: адміранне адных значэнняў якога-небудзь слова і ўзмацненне або паяўленне новых яго значэнняў. Гэтаму прыклад якраз слова „бахур“, якое раней абазначала ў беларускай і ўкраінскай мовах „залётнік, валацуга, любоўнік, пузаты, таўстун, кныр, малое дзіця, няшлюбнае дзіця“. З бегам часу па розных прычынах усе іншыя значэнні слова „бахур“ забыліся, захавалася і ўмацавалася толькі апошняе — „няшлюбнае дзіця“. Назву ж „Бахуроўскі“ заімеў кавалак колішняй Ялоўскай пушчы вельмі даўно, бо ў пісаных дакументах ён сустракаецца ўжо ў палавіне XVIII стагоддзя. Гэта быў „абруб“ або інакш тая частка лесу, якая лічылася за адным асочнікам ці па-сённяшняму гаёвым і ён быў адказны за яе стан. Ці той першы гаёвы-ляснік быў надта залётны ці вельмі пузаты сёння цяжка сказаць, але вядома тое, што яшчэ да 1921 года гэтая мясцовасць у розных афіцыяльных дакументах называлася **Бахуроўшчына,** таксама як Капітаншчына, Бернатоўшчына, Талькоўшчына і мноства іншых, але потым перамагла народная назва — Бахуры.

Маюць яны многа характэрных для беларускіх вёсачак уласцівасцей: расцягнуліся вуліцоўкай уздоўж берага рачулкі **Луплянкі,** а на колішняй грэблі, што запруджвала на ёй ваду для панскага млына ці фолюша, стаяць дзве каплічкі: Яна — каталіцкая і Мікалая — праваслаўная. Стаяць яны адна насупраць другой, як доказ таго, што гэтыя два веравызнанні былі пануючыя на тутэйшых землях. Пры гэтым з захаваннем асноўных іх асаблівасцей: у капліччы Яна стаіць старадаўняя драўляная фігурка, а ў капліччы Мікалая вісяць на сценах іконы. На жаль у каплічку Мікалая два гады таму назад праламаліся ноччу зладзеі і ўкралі каля дваццаці самых даўніх і цэнных іконаў. Падобны лёс спаткаў збор старажытных іконаў у лясной капліччы ў Новай Волі і іншых суседніх з Бахурамі мясцовасцях. Эх, як жа не ўмеем мы паклапаціцца пра захаванне каштоўных помнікаў нашай гісторыі!..

Гэта адносіцца як да глыбокай старажытнасці, так і да нядаўняга мінулага. Толькі старэнькія згадваюць, што ў Бахурах вельмі актыўна дзейнічала ў міжваенны час ячэйка Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якая была падначалена раённаму камітэту КПЗБ у Гарадку, працаваў таксама гурток БСР Грамады, шэраг бахураўчан, што працавалі пры вырубцы і сплаве лесу з Белавежскай пушчы прымалі ўдзел у славу-

(Працяг на стар. 4)

## Новыя вершы

*

*Я спытаў чалавека,*
*Які прайшоў праз агонь,*
*І воды,*
*І медныя трубы:*
*— Што самае цяжкое*
*На гэтым свеце?*

*І ён адказаў:*
*— Прайсці праз вернасць.*

*

*Вітаю знаёмыя сцежкі,*
*Што дзесь пачаліся з вясны,*
*Сваіх спадарожнікаў даўніх —*
*Пад светкай імглы валуны.*

*Вітаю бярозы, якія*
*Ў зіму чарадою брыдуць,*
*І тыя вятры штармавыя,*
*Што мне несціхана гудуць.*

*Гудуць, каб ішоў я за імі*
*І не азіраўся назад,*
*Ішоў, аж пакуль на дарозе*
*Не ўкрые слядоў лістапад.*

*

*Выпаў першы снег.*
*Радасць малым дзецям з яго*
*Будаваць белыя казачныя замкі,*
*Ляпіць белых пудзілаў,*
*Разрысоўваць яго*
*Белымі слядамі*
*Сваіх лыж, канькоў, санак.*
*Ды нехта выцягнуў дыван*
*І пачаў выбіваць з яго пыл*
*Розных сварак, нязгод, забабонаў...*
*І адразу неяк*
*Снег пашарэў,*
*І ўвесь свет пашарэў,*
*І змоўк смех дзяцей.*

*

*Ад гора — ўсё ў свеце няміла,*
*Ад шчасця — час хутка мінае,*
*Ад хмелю — марнуюцца сілы,*
*Ад славы — сяброў убывае...*
*Вось тут і спыніся на нечым*
*У гэтым жыцці, чалавеча!*

*

*Я Гулівером адпачыць прылёг.*
*Матыль-разведчык на плячо прысеў мне,*
*За ім — камар, узброены клінком.*
*Мурашкі праз мяне дарогу пралажылі,*
*І павуцінай прывязаў павук*
*Мяне да дзьмухаўца, а жук пачаў быў*
*Пра перамогу нада мной трубіць...*
*І смешнай мне была іх мітусня.*
*Ды раптам вецер пушчу разбудзіў,*
*І ажылі стагоднія дубы і хвоі,*
*Што на плячах сваіх трымалі неба*
*З лавінамі грымот і бліскавіц.*
*І я сябе адчуў упершыню*
*Такім жа смешным свету ўладаром,*
*Як гэтыя гаспадары лясныя.*

**Максім Танк**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# ГЕРОЙ ВЭСТЭРПЛЯТЭ — НАШ ЗЯМЛЯК

З'яўляецца ім Уладзіслаў Патаповіч.

Нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Бобінка-Старына ў сям'і беднага селяніна. Меў толькі паўтара года, як бацькі не стала. Маладая ўдава-маці неўзабаве другі раз выйшла замуж. І былі дзеці па другім мужу. Але жыццё ўкладалася не надта, і калі выбухла першая сусветная вайна, у бежанства маці забрала толькі малога Уладзіка. Дзеці па другім мужу засталіся з бацькам. Ён не пажадаў ехаць у далёкую Расію.

Заехалі ў Казань над Волгай. Уладзік пачаў хадзіць у татарскую школу. Хутка авалодаў татарскай мовай. Калі бежанцы пачалі вяртацца дамоў, рушыла на далёкую бацькаўшчыну і Уладзікава маці з сынам. У дарозе памерла. Быў 1919 год. 14-гадовы сірата сам ехаў на радзіму. На апошняй станцыі, у Чаромсе, нехта сказаў яму, што ў Старыне нікога з родных няма, усе раз'ехаліся, айчым памёр (гэта былі не праўдзівыя факты).

Сіратою зацікавіўся адзін пан з Сямяціч. У яго Уладзік і пачаў служыць парабкам. Але да гэтага пана часта прыязджаў граф Саберскі. Ён выявіў у малым пастушку незвычайныя здольнасці і забраў яго да сябе, паслаў вучыцца. Уладзік вучыўся выдатна. Гімназію закончыў на адных пяцёрках.

Уладзіслава чамусьці



цягнула мора і ваенны флот. Пачаў прасіць свайго апекуна, каб дапамог яму паступіць у такі флот. І вось, па нейкім часе, Уладзіслаў Патаповіч — выпускнік ваенна-марской школы. І яго, найлепшага выхаванка накіроўваюць у двухгадовую навігацыйную школу ў Англію. І гэтую школу закончыў Патаповіч паспяхова. Калі вярнуўся атрымаў эскадру падводных лодак: „Вільк“, „Рысь“, „Жбік“. Многа краін наведалі маракі пад камандаваннем Патаповіча. Апошняй была Паўночная Афрыка. Вярнуліся ў 1939 годзе.

Пахла порахам. У паблізкім Гданьску, які лічыўся вольным горадам, фашысты адчувалі сябе як дома. Туды, як выявілася, і ўцёк нямецкі шпіён Шмрылёф. Было таксама вы-

(Працяг на стар. 4)




*Удзельнікі цэнтральнага агляду з Дубіч Царкоўных — салістка Люба Шварц і акампаніятар Рыгор Шварц.* *Фота К. Свідэрскага.*

# 25 год радыёвяшчання ў Беластоку!

Мінула 25 гадоў з таго часу, калі пачала працаваць радыёвяшчальная станцыя Польскага радыё ў Беластоку. Першую радыёперадачу выслала ў эфір 2 кастрычніка 1952 года. Цяпер гэта адзін з найбольш сучасных радыёвяшчальных цэнтраў у нашай краіне. Абсталяваны ён навейшай тэхнікай.

Пачынала беластоцкае радыёвяшчанне з 15-мінутнай праграмы (91 гадзіна на працягу года). Цяпер — 850 гадзін, а ў будучым годзе беластоцкае радыёвяшчанне павялічыцца да 1100 гадзін. На агульнапольскую антэну ідзе зараз 200 гадзін радыёперадач з беластоцка-ломжынска-сувальскага рэгіёна ў год. Многа радыёперадач адводзіцца важным грамадскім праблемам і справам. Ідуць яны ў эфір кожны дзень. Кожную суботу ёсць таксама перадачы і на беларускай мове.

Найбольш гадоў працуюць у беластоцкім радыё Лешак Кубіцкі, Зыгмунт Бжазоўскі, Генрык Кашковяк, Зыгмунт Мойсак, Антон Капшэвіч, Юзэф Касцючык і Ян Каніцкі.


*За эмісыйным сталом Ян Куніцкі, які ў беластоцкім радыёвяшчанні працуе 22 гады.*


*Дыктар Юзэф Касцючык працуе ў беластоцкім радыёвяшчанні ад пачатку яго існавання.*

У планах беластоцкага радыёвяшчання шмат навінак: будзе створаны дзіцячы музычна-вакальны калектыў (будзе гэта першы такі калектыў у Польшчы), будуць радыёперадачы са сцэны Беластоцкага дзіцячага тэатра, а таксама будуць радыётрансляцыі з беластоцкай Філармоніі.

Беласток будзе таксама (як дагэтуль) арганізаваць штогод агульнапольскія радыёфестывалі ў Белавежы, на якіх будзе падсумоўвацца вопыт і дасягненні польскай радыёдраматургіі, мастацкага рэпартажа, а таксама розных іншых форм радыёперадач. Радыёслухачы такім чынам будуць сустракацца з аўтарамі, рэжысёрамі, акцёрамі, літаратурнымі і тэатральнымі крытыкамі, прадстаўнікамі навуковых інстытутаў.

З выпадку юбілею рэдакцыя „Нівы" жадае работнікам беластоцкага радыёвяшчання паспяховай рэалізацыі намечаных планаў, поспехаў у штодзённай прафесіянальнай працы і асабістым жыцці.

**Тэкст і фота Янкі Цялушэцкага**

## Навукова-літаратурная сесія

З нагоды 60-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 30 кастрычніка бягучага года ў чытальніцкай зале „Арсенала" ў Беластоку адбылася арганізаваная Навуковым гуртком БГКТ і Літаратурным клубам Саюза польскіх пісьменнікаў навукова-літаратурная сесія „Мост, узведзены стагоддзямі", прысвечаная польска-беларускім літаратурным узаемасувязям. Вёў яе член вышэй успомненага клуба Багуслаў Фаліцкі. Першым выступіў з дакладам „Польская тэматыка ў беларускім літаратурным друку" загадчык беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта доктар Аляксандр Баршчэўскі, які на прыкладзе тыднёвіка „Літаратура і мастацтва" паказаў зацікаўленне з боку беларускіх гісторыкаў літаратуры творамі польскіх пісьменнікаў і іх ролю ў доследах і аналізах гэтай творчасці. З вельмі цікавым і змястоўным дакладам „Вобразы беларускага чалавека ў сучаснай польскай літаратуры" выступіў навуковы працаўнік польскай філалогіі філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку мгр Янка Леанчук, які дасканала правёў аналіз польскіх літаратурных твораў, якія адлюстроўваюць і закранаюць жыццё беларусаў. Затым быў даклад працаўніцы Польскай акадэміі навук мгр Марыі Чурак на тэму „Беларуская літаратура пра II сусветную вайну і яе ўспрыняццё ў Польшчы".

Сесія адбывалася на беларускай і польскай мовах, што абсалютна не перашкаджала ва ўзаемным разуменні, а наадварот — больш аддавала атмасферу накрэсленую тэмай сесіі. Як пашырэнне закранутых дакладамі праблем была агульная дыскусія і навуковыя паведамленні. Выступілі: Юры Туронак, Янка Леанчук, Аляксандр Баршчэўскі, Уладзімір Стохель, Юрка Геніюш і Сактар Яновіч.

А вечарам у клубе БГКТ адбыўся вялікі літаратурны вечар польскіх і беларускіх літаратараў, у якім прынялі ўдзел: Янка Леанчук, Багуслаў Фаліцкі, Яўген Шульборскі, Ян Чыквін, Алесь Барскі, Сакрат Яновіч, Юрка Геніюш, Ірэна Баравік і Міхась Шаховіч. Пасля чытання новых твораў распачалася доўгая і цікавая дыскусія, якая працягвалася да позніх гадзін.

**М. Ш.**

## Беларусіяна

### ТВОРЫ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ У ПОЛЬСКІМ ДРУКУ

У сувязі з 60-годдзем Вялікага Кастрычніка польскі друк адвёў шмат месца пад паблікацыю літаратурных твораў савецкіх аўтараў. У тым ліку была змешчана вялікая колькасць твораў беларускіх літаратараў. Тыднёвік „Літэратура" за 20 кастрычніка апублікаваў у перакладзе Анны Сабэцкай глыбока псіхалагічнае апавяданне вядомага беларускага празаіка Івана Шамякіна „Непрыгожая", у якім аўтар раскрывае вобраз жыцця адной жанчыны, працуючай вясковай настаўніцай. На аснове паказання двух аблічча: знешняй непрыгожасці і ўнутранай дабраты, аўтар стварае вобраз жанчыны з вялікім сэрцам, але якой, з увагі на гэтую знешнюю непрыгожасць, жыццё не склалася як іншым. Не зведала яна сямейнага шчасця і цеплыні. Апавяданне пабудаванае ў двухчасовым плане — цяперашнім і мінулым у форме ўспаміну.

Кракаўскі тыднёвік „Жыце літэрацке" за 6 лістапада змясціў пяць паэтычных твораў Пятруся Броўкі, Максіма Танка, Анатоля Грачанікава і Генадзя Бураўкіна. Поўнасцю прысвечаны творчасці савецкіх аўтараў кастрычніцкі нумар „Паэзіі" апублікаваў чатыры паэтычныя творы Максіма Танка і два Пімена Панчанкі.

Пачынаючы з кастрычніцкага нумара, Беластоцкі штомесячнік „Кантрасты" публікуе выбраныя фрагменты з шырокавядомай кніжкі Аляксандра Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка „Я з вогненнай вёскі", якую пераклалі на польскую мову Мацей Кананович і Юры Літвінюк. Гэта перанесены з магнітафонных стужак на паперу запіс рэляцыі больш трохсот непасрэдных сведкаў зверстваў гітлераўскіх захопнікаў.

**М. Шаховіч**

### ДАСЯГНЕННІ ПЕРАДАВОЙ ПЕДАГОГІКІ

Цікавую выстаўку **„60 год савецкай педагагічнай думкі"** арганізавалі ў зале беластоцкага настаўніцкага клуба „Бакалаўр" Ваяводская педагагічная бібліятэка супольна з бібліятэкай філіяла Варшаўскага універсітэта, Дома кнігі, аддзела Саюза польскіх настаўнікаў у Беластоку і бібліятэкай Варшаўскага універсітэта. Згодна са сцэнарыем, падрыхтаваным др Я. Якубоўскім, на выстаўцы было паказана каля 300 самых каштоўных і рэдкіх кніг, фотакопій дакументаў і часопісаў, якія адлюстроўваюць самыя істотныя дасягненні савецкай педагогікі на працягу мінулых 60 год, а таксама выданні прац польскіх педагогаў, прысвечаныя савецкай педагогіцы, і шматлікія пераклады прац савецкіх аўтараў на польскую мову. Важнае месца на выстаўцы займалі фатакопіі дакументаў, што адносіліся да спраў асветы, а якія ўласнаручна падпісаў У. І. Ленін. Выстаўку адкрыў дырэктар Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі мгр Я. Зенюк

**(іс)**

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

## ЛЯЧЭННЕ

Народнае лячэнне з'яўляецца як бы супрацьпастаўленнем шкодніцкай магіі. Калі мэтай шкодніцкай магіі было наношванне зла і помсты, дык магічнае лячэнне нясе чалавеку палёгку, здымаючы шматлікія хваробы і, можна сказаць, з'яўляецца відам магіі дапаможніцкай. Даследуючы спосабы магічнага лячэння можна яго надта лёгка падзяліць (прымаючы за прынцып таямнічасць утрымоўвання) на тры групы:

1. агульнадаступныя спосабы,

2. вядомыя толькі паасобным групам людзей,

3. тайныя, якія захоўваліся толькі ў сям'і і пераказваліся выбраным, згодна з акрэсленымі магічным лячэннем вымогамі, членам.

Пашыраючы схему гэтага падзелу, неабходна больш дакладна ахарактарызаваць паасобныя групы, што зробім у далейшых частках гэтага раздзела. Паданне сухой схемы падзелу аб нічым не гаворыць. Гэта толькі рэч умоўная, выплыўшая як вывад пры збіранні і запісванні формул ды дзеянняў. Бо што ж прыкладна азначае інфарматару падзел на яўныя ці тайныя? Інфарматары безупынна паказваюць толькі на адно, што з'яўляецца галоўным патрабаваннем у магічным лячэнні — трэба моцна ў гэта верыць. Амаль на кожным кроку можна пачуць: „колісь то помогало, бо людэ віерылі в сіетэ і тому нэ хворыэлі так як дзісяка".

Народнае лячэнне глыбока запусціла ў людскім быце свае карэнні. Яшчэ па сённяшні дзень бытуе яно ў народзе. Вось хоць бы ўзяць ёд, сёння агульнапрыняты лек. Здараецца, і то часта, што ў многіх цяжкіх выпадках, асабліва пры ранах і пухлінах, людзі адклікаюцца да сваіх старых спосабаў народнага лячэння і заступаюць вышэй згаданы лек мачою. Многія людзі, з якімі прыходзілася гутарыць, дашукоўваліся ў адыходзе ад старых лячэбных практык паяўлення наватваровых хвароб. У сувязі з пашыраючымся „нявер'ем" наступіла аслабленне пэўных, абавязваючых у народным лячэнні, канонаў. І так, тое, што дагэтуль было ўласнасцю паасобных грамадскіх ці этнічных груп, у выніку многіх змен, прыкладна безупыннага руху людзей, сталася ўласнасцю ўсіх. Да гэтага яшчэ ў народным лячэнні значна пашырыласся „навінкарства" на спосабы лячэння хвароб. Таму цяпер надта цяжка ўстанавіць тэрытарыяльнае паходжанне данай формулы. Мы ў сваіх запісах будзем старацца хоць часткова паказаць іх месца „нараджэння". Як і іншыя віды веравання, найбольш пашыранае магічнае лячэнне на вёсцы. Зразумела, не з'яўляецца гэта правілам. Вядомыя таксама выпадкі і ў горадзе, прыкладам — беластоцкі „манах" з Келецкай вуліцы. Апрача гэтага народнае лячэнне ў значнай меры ўзалежнена ад цэнтраў культуры і святых месц, яны таксама састаўляюць своеасаблівую карту народнага лячэння, звязанага з так званымі аздараўленчымі месцамі.

Магчыма, нашы доследы хоць часткова выкрыюць некаторыя формулы і спосабы народнага лячэння, якія, так як і іншыя галіны фальклору, хутка загінуць. Матэрыял, які будзем прадстаўляць, і на аснове якога будзем рабіць свае вывады, быў запісаны намі на тэрыторыі Беласточчыны ў гадах 1970-77.

Як і амаль усе галіны народнага веравання і творчасці, народнае лячэнне перажыло ўплыў хрысціянскай рэлігіі, якая адціснула на ім свой след, уносячы перакананне, што чалавечы лёс поўнасцю ўзалежнены ад бога. Часта таксама некаторыя хваробы (параліч, эпілепсія ці хваробы псіхічныя) лічаць „божым прызначэннем". У сувязі з вышэй сказаным, часта ў лячэнні хвароб выкарыстоўваліся звязаныя з гэтай рэлігіяй прылады-дапаможнікі: медалікі, свянцоную ваду, крэйду, свянцонае зелле, свечкі і іншыя. Паасобныя хваробы набылі таксама сваіх „святых патронаў".

**Янка Леанчук**
**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 1)

# ГЕРОЙ ВЭСТЭРПЛЯТЭ - НАШ ЗЯМЛЯК

яўлена, што ўцякаючы, загадаў ён свайму „намесніку“ выкрасці абаронныя планы польскага ўзбярэжжа. Гэтыя планы былі ў ваенным порце ў Гдыні, дзе служыў Патаповіч. Яму і было даручана спецыяльнае заданне.

22 жніўня Патаповіч напаў на след „намесніка“. Шпіён гэты называўся Курт Бемке, ён ужо быў на прыкмеце ў польскай контрразведкі. Не хапіла толькі стопрацэнтнай пэўнасці, каб арыштаваць яго. Пераапрануты ў цывільнае Ул. Патаповіч ехаў з ім цягніком у напрамку Сопат. На гэтай станцыі „намеснік“ выскачыў з вагона і хутка пайшоў да лесу. Пайшоў за ім і Патаповіч. У лесе шпіён прыкмеціў „апекуна“ і пачаў страляць. Потым кінуўся ва ўцёкі. Куля Патаповіча дагнала ворага. Пачуўшы выстралы, збеглася польская стража. Пачалі дакладна аглядаць труп забітага і каля каўняра ў вопратцы знайшлі сфатаграфаваныя планы абароны польскага ўзбярэжжа.

Найбліжэйшая польская ваенная часць была на Вэстэрплятэ. Туды і перавязлі рыбакі Патаповіча. Не меў пры сабе ніякіх дакументаў. Пачалі правяраць. Капітан Дамброўскі загадаў тэлеграфісту „выстукаць“ да вышэйшага начальства ў Гдыню. Адказ прыйшоў станоўчы. Былі словы падзякі, сам камандзір часці Сухарскі паціснуў руку.

А навальніца вісела ў паветры. Тыдзень таму нямецкія буксірныя судны прышвартавалі ў Гданьскі заліў браняносец „Шлезвіг-Гольштэйн“. І вось раніцай 1 верасня ён першым атакаваў Вэстэрплятэ.

Уладзіслаў Патаповіч у гэты час часова займаў пасаду камандзіра прыстані. Як і ўсе абаронцы Вэстэрплятэ, ён мужна змагаўся з гітлераўскай навалай. На пяты ці шосты дзень абароны асколкам бомбы быў цяжка паранены ў левую нагу і лёгкія. Калі апрытомнеў, над ім стаяў нямецкі салдат.

Палажылі яго ў бальнічным калідоры і немцы, якія праходзілі побач, плявалі на яго, лаялі. Праляжаў там да 15 верасня. Пасля вывезлі ўглыб Германіі. У вельмі цяжкіх умовах і паніжэнні праляжаў у шпіталі 11 месяцаў.

Пасля вайны Уладзіслаў Патаповіч даведаўся, што немцам вельмі залежала на сваім Курце Бемке і яны вынюхалі (мо нехта данёс?), што аб яго смерці ведае тэлеграфіст Казімір Расінскі (той, што „выстукваў“ у Гдыню ў справе Патаповіча). Але тэлеграфіст Патаповіча не выдаў, немцам сказаў: — Ваенная тайна.

Немцы расстралялі Казіміра Расінскага, тэлеграфіста Вэстэрплятэ, які вышэй смерці цаніў салдацкі абавязак і вернасць радзіме. Па сённяшні дзень Уладзіслаў Патаповіч апякуецца сям'ёй гэтага тэлеграфіста.

Сам шчасліва перажыў вайну, вылечыўся з ран (хоць стаў інвалідам). Пасля вызвалення доўгі час быў капітанам пасажырскага судна на Балтыцы. За абарону Вэстэрплятэ ўзнагароджаны ордэнам „Віртуці Мілітары“ і іншымі высокімі ўзнагародамі. Цяпер на пенсіі.

Некалькі год таму выпадкова даведаўся, што яго ўлюбёная, малодшая сястра жыве ў Чэхах Арлянскіх (замужам — Марыя Масальская). І сюды з далёкай Быдгашчы, дзе жыве, часта прыязджае ў госці, сустракаецца з мясцовай школьнай моладдзю. Такім чынам і я даведаўся аб гісторыі гэтага незвычайнага чалавека.

Уладзіслаў Патаповіч хоча вярнуцца на Беласточчыну і пасяліцца ў Старыне.

**М. Панфілюк**

## Кажуць, што...

*...дарожныя ўлады ў Боцьках любяць выгаду. Бо як жа тлумачыць такі факт: на скрыжаванні вуліц Грунвальдскай і Бельскай паставілі яны новы дарожны знак, а той, што быў тут раней, у роў звалілі. Так і гніе там. Выгадна і без ніякіх клопатаў.*

**(ця)**



*Надта ж паволі расце ў Бахурах раміза-святліца.*

(Працяг са стар. 1)

# БАХУРЫ

тай забастоўцы лясных рабочых і плытнікаў. За палітычную работу, накіраваную супраць санацыйных улад пакутвалі ў турме **Янка Варона, Міхал Галавеньчык, Янка Кардаш.** Гэтыя свабодалюбівыя імкненні не згаслі і ў часе гітлераўскай акупацыі. Адразу пасля прыходу фашыстаў у суседнім з Бахурамі **Луплянскім лесе** адзін з партызанскіх атрадаў заснаваў сваю сталую базу. Многія бахураўчане былі яго сувязнымі, дапамагалі адзежай і жыўнасцю. Варта было б падумаць пра тое, каб забяспечыць або нават і рэстаўраваць партызанскія зямлянкі. Яны ж самы красамоўны довад змаганняў адыходзячага пакалення за наш сённяшні дзень. Яшчэ жывуць некаторыя ўдзельнікі і сведкі тых гераічных часоў, але праз некалькі год можа быць запозна...



*Уся каплічка Яна — гэта жывая старажытнасць.*

Сённяшні дзень у Бахурах — гэта працавітае тупанне на **Кіслюковым, Падбярозніку, Надатках, Загарадах,** каля **Пячастай Гары** і на іншых палетках з думкай пра добры ўраджай і гадоўлю, але ў вёсцы, падобна як і ў іншых баках Беласточчыны, на стала жывуць і працуюць толькі старэйшыя людзі. Уся моладзь пасля заканчэння васьмігодкі ў суседніх Шымках падаецца ў сярэднія школы Міхалова ці Беластока і ў роднае сяло ўжо не вяртаецца, знаходзячы там не толькі высокія заробкі, колькі іншы вобраз жыцця, больш сучасныя формы адпачынку. Іменна з думкай пра ажыўленне ў вёсцы грамадскага і культурнага жыцця члены падставовай партыйнай арганізацыі ПАРП і процілажарнай каманды на чале з іх сакратаром і камендантам **Канстанцінам Гавеньчыкам** заініцыявалі ў 1975 годзе пабудову рамізы-святліцы. Агульны кошт аб'екту складзе 340 тысяч злотых, палавіну гэтых коштаў, г.зн. будаўнічыя працы, транспарт матэрыялаў і інш., узялі на сябе бахураўчане. Будынак расце, але паволі. Патрэбна большае зацікаўленне і дапамога ў паскарэнні будовы з боку гмінных уладаў у Міхалове.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Гэтую капліцу Мікалая абрабавалі злачынцы са старажытных іконаў.*

## Разведка гаспадарнасці

# Гульня ў поезд

8 лістапада гэтага года (аўторак) задумаў я паехаць у Райск. Пайшоў на вакзал, купіў білет і на трэці перон. Там стаяў ужо поезд. Меў ён ад'ехаць у 9²⁰. У паверхавым вагоне было многа свабодных месц, цёпла і выгадна. Толькі поезд ніяк не ехаў, хоць была ўжо 9⁴⁰. Усе чакаюць, многія нецярпліваца. Пара ўжо ехаць. А 9⁵⁵ светлавалосая дзяжурная руху прыйшла, каб адправіць наш поезд у дарогу. Пад'ехалі мы ўсяго няшмат і поезд спыніўся. Аказваецца семафор закрылі. Прыйшлося зноў чакаць. Зноў паяўляецца жанчына ў чырвонай шапцы.

— Ці хутка паедзем? — спытала ў яе пасажырка.

— Не ведаю, — адказвае дзяжурная. — Семафор закрыты.

— За паўгадзіны, — пачаў гадаць малады чыгуначнік, што быў побач яе.

— Адкуль ведаеш? — папракнула яго дзяжурная. — Адкуль ты ведаеш?

— Ведаю?

— Лепш маўчаў бы!

— Чыя гэта віна? — спытаў дзелавіта пасажыр.

— Кіраўніка поезда, — выясніла дзяжурная. Гадзіны яму пабыталіся.

— Ды ўжо так і ёсць! — адазваўся голас з адкрытых дзвярэй.

З-пад семафора поезд ад'ехаў а 10¹⁰. На прыпынку Беласток-стадыён быў у 10²⁵. У Райск прыехаў я а 11¹⁰. А паводле распісання паяздоў павінен быць тут а 10²⁴. У гэты дзень у той час наш поезд выязджаў з Беластока.

Так беластоцкія чыгуначнікі гулялі ў поезд з пасажырамі.

**Іван Непаседа**

# Выйгралі 31 машыну

Дваццаць восьмага кастрычніка бягучага года адбыўся ў Беластоку розыгрыш легкавых машын, у якім прыняло ўдзел 49054 прэміяваных ашчадных кніжак ПКО (па 9 тысяч злотых кожная) адкрытых у Беластоцкім, Ломжынскім і Сувальскім ваяводствах. З сарака дзевяці выйграных машын на Беластоцкае ваяводства выпала аж трыццаць адна. Трэба адзначыць, што сярод шчаслівых ашчадных кніжак 25 было адкрытых у Беластоку, 4 у Бельску Падляшскім і 2 у Гайнаўцы. У гэтай агульнай, прыпаўшай на Беласточчыну колькасці машын было: шаснаццаць „Фіятаў-126 п“, дзевяць „Сірэн-105“, чатыры „Трабантаў Лімузін“ і два „Запарожцы“.

Варта сказаць, што ў сёлетніх розыгрышах на ашчадныя прэміяваныя кніжкі, адкрытыя ў Беластоцкім, Ломжынскім і Сувальскім ваяводствах прыпала аж 207 легкавых машын. Наступны розыгрыш гэтакіх прэмій адбудзецца 28-га студзеня наступнага года ў Ваяводскім аддзяленні НБП у Беластоку.

**(мш)**

## Беларуская літаратура
Аляксандр Барычэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА VII

**Апавяданні.** Амаль усе дарэвалюцыйныя апавяданні Бядулі былі змешчаны на старонках „Нашай нівы“. Дакастрычніцкая проза пісьменніка амаль поўнасцю змяшчаецца ў сялянскай монатэме. Грамадская сялянская рэчаіснасць, постаці вясковых дзяцей, жанчын, беларуская галеча — гэта асноўныя матывы прозы Бядулі. Усю дарэвалюцыйную прозу Бядулі можна разглядаць у наступных аспектах: дзіцячы свет, постаці жанчын, старасць і яе праблемы, вобраз беларускай вёскі. У першую чаргу разгледзім тыя апавяданні, у якіх выступаюць постаці дзяцей.

**Дзіцячы свет.** Дзіцячая праблематыка выступае ў апавяданнях „Юлька“, „Дзе канец свету“, „Велікодныя яйкі“, „Летапісцы“, „Малыя дрывасекі“, „Тулягі“. У гэтых творах пісьменнік займаецца рознымі аспектамі дзіцячай асабовасці, дзіцячых заняткаў і дзіцячага побыту. Бядуля займаецца дзяцьмі розных узростаў, адклікаецца да сферы іх духоўнага развіцця і іх адносін са старэйшымі. У апавяданні „Юлька“ аўтар паказаў развіццё дзяўчыны ад дзевяці месяцаў да сёмага года яе жыцця. З вялікім псіхалагічным знаўствам прадставіў ён працэс вымаўлення Юлькай першых слоў, першыя яе крокі, першыя гульні і ўрэшце першыя дні ў школе. У адрозненні ад іншых дзіцячых апавяданняў, у якіх пісьменнік звяртаў увагу на страшэнныя ўмовы жыцця беларускага дзіцяці, у „Юльцы“ маем дачыненне з даволі светлай карцінай дзяцінства. Развіццё малой дзяўчынкі адбываецца ў атмасферы гарманійнага сужыцця з бацькамі і ўсім асяроддзем. Адчуваецца нейкая своеасаблівая цеплыня ў адносінах пісьменніка да сваёй „гераіні“. Пісьменнік тут не толькі назіральнік. Ён як бы атаесамліваецца з бацькам і з маткай і з тым усім, што памагае дзіцяці жыць, адчуваць і развівацца. Апавяданне „Юлька“ насычана глыбокім аўтэнтызмам. Паяўляецца ён і ў дэталях дзіцячай псіхалогіі і ў паказе рэаліяў сялянскага побыту.

У апавяданні „Дзе канец свету“ заняўся пісьменнік дзіцём, якое знаходзіцца на тым этапе, калі яго пачынае цікавіць таямнічасць свету, калі яно ўсё далей аддаляецца ад роднай хаты і яе непасрэднага наваколля. Твор „Дзе канец свету“ нагадвае крыху казку, запісаную Сержпутоўскім пад загалоўкам „Гуслі“. У апавяданні Бядулі выступае свайго роду культ дзіцячай уражлівасці і дзіцячага імкнення да пазнання свету. Герой апавядання Янка захоплены неабсяжнай прыгажосцю і разнароднасцю свету. Марыць ён аб тым, каб убачыць, дзе канчаецца свет і таму ўсё далей і далей адыходзіць ад роднай хаты. Твор Бядулі з'яўляецца своеасаблівым гімнам у чэсць адзінства чалавека і прыроды. Выступае ў ім анімізацыя прыродных з'яў. Пісьменнік свядома сцірае мяжу паміж чалавекам і прыродай, трактуючы сусвет як адзін вялікі арганізм.

Можна гаварыць аб наяўнасці дыдактычна-маралізатарскага элементу ў апавяданні. Пісьменнік стараецца давесці, што прырода прыхільна адносіцца да чалавека і адзінай філасофіяй чалавека павінна быць любоў да прыроды. У такой трактоўцы праблемы як бы чуюцца адгалоскі адносін нашых продкаў да прыродных з'яў, як бы рэха фальклорных матываў.

І „Юлька“ і „Дзе канец свету“ гэта доказы вялікай любві пісьменніка да дзяцей, праявы яго імкнення да зразумення ўсёй спецыфікі дзіцячага розуму і дзіцячага сэрца.

## ТАК БЫВАЕ...

# ШЧАСЦЕ І ТРАГЕДЫЯ

Пратэставалі бацькі, калі іх адзіны сын Валодзя вырашыў ажаніцца з простай дзяўчынай, ткачыхай з тэкстыльнай фабрыкі.

— Ані пасады адпаведнай нямае, ані адукацыі, ды з выгляду нічым асаблівым не выдзяляецца. А ты ўсё ж тэхнік, кіруеш рабочымі. Вось і жонку бяры такую як сам. З інтылігенцыяй трэба звязвацца а не з рабочымі — даказвала маці.

— Мама, Раіса добры чалавек, вясёлы, мілы. З ёю мне будзе добра. Я ў гэтым пераконаны — адказваў сын.

І Валодзя паставіў на сваім. Ажаніўся са сваёй любімай дзяўчынай, з якою больш года дружыў. Раіса стала жыць у яго хаце. У меншым пакоіку маладажоны паставілі тапчан, стол, некалькі крэсел, невялікую шафу на адзёжу.

Маці пачаткова з вялікім холадам адносілася да нявесткі. Хацела ад першага дня асобна варыць, але бацька пераканаў, што да нявесткі трэба адносіцца як да свайго дзіцяці.

— Яна ўжо нашая. Не дзяліся. На гэта ніколі не позна. Не пачынай першая непаразуменняў — тлумачыў жонцы.

І так прайшоў тыдзень, другі, прайшоў месяц, пасля паўгода. Маці забылася аб падзеле. Валодзя з Раісай давалі грошы на харчаванне. Нявестка памагала пры кухні, часта сама рыхтавала абед. Ды ўмела лепш, смачней варыць. Падрыхтоўвала блюды, аб якіх цёшча нават не чула. Але гэтым ніколі не хвалілася. Да цёшчы адносілася вельмі добра. Заўсёды пахваліць цёшчыну кулінарыю.

Валодзя і бацька хутка пазналіся на кухарскіх здольнасцях Раісы. Аднак аб гэтым маўчалі, каб не гнявіць старой, ведалі жорсткі характар маці.

Бацькі хутка прывыклі да нявесткі. Шанавалі яе за тое, што любіла яна чысціню і парадак, што ўмела знайсці адпаведнае слова ў адпаведнай хвіліне. Калі бачыць, што муж у кепскім настроі, патрапіць сказаць так, што разладоўваецца напружанасць і хочацца ўсміхнуцца. Адным словам, сваёй натуральнай сардэчнасцю стварала добры клімат у хаце. Дайшло нават да таго, што цёшча ў прысутнасці Раісы не буркала на свайго мужа.

На другім годзе сямейнага жыцця Раіса зацяжарыла. Валодзя нават падкрэсліваў, што будзе хутка бацькам. Раіса таксама з хваляваннем чакала мацярынства.

Сямейнае шчасце абарвалася раптоўна. На Раісу наехаў самаход, калі вярталася з працы. Смерць наступіла на месцы.

Валодзя думаў, што не перажыве гэтай трагедыі. Доўга не мог агорыць смерці жонкі. Ішоў на работу і вяртаўся з апушчанай галавой. А пасля звыкся з горам. Адзіноцтва стала дакучаць. І пачаў аглядацца за кандыдаткай на жонку. На шостым годзе пасля смерці Раісы, маючы 30 год, Валодзя паўторна ажаніўся. Узяў дзяўчыну з вышэйшай адукацыяй. Некаторыя называлі яе нават „пані магістар". І вось гэтае „пані магістар" вельмі імпанавала цёшчы. Але не доўга. „Пані магістар" з першага дня пачала ўводзіць свае парадкі. Бацькоў перамясціла ў меншы пакоік. З першага дня асобна стала варыць. З нікім не лічылася. Характар мела канфліктны. Часта дробязі былі прычынаю сваркі. Валодзя быў добры, уступчывы і з усім гэтым мог яшчэ мірыцца. Але не мог змірыцца з двума яе недахопамі. Была яна неакуратная. Ніколі не памыла належна пасуды. Не хвалявала яе брудная бялізна і пасцель. Ніжняй бялізны ніхто не бачыць — гаварыла. Не пільнавала парадку ў хаце і сама была недамытая. Валодзя не раз звяртаў ёй увагу на брудную шыю.

Другім недахопам, які кранаў моцна Валодзю, быў той факт, што яна першай ніколі не абняла яго, ні ўдзень ні ўночы, што ніколі сардэчна не пацалавала. А ўжо з цёшчаю зусім не ўмела гаварыць. Усё напоперак рабіла.

Надаела бацькам і яны выдварылі маладых. Нанялі тыя летнюю кухню. Яна хутка пойдзе радзіць. Але ад гэтага бацькоўства Валодзі не павесялела на душы. Валодзя носіцца з думкай аб разводзе.

**Міхась Сваяк**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

ЛЮБОЎНАЯ




*Каліна-маліна, чом ні зелянееш?*
*Чы сушы баішсе?*
*Чы луга жалееш?*
*— Сушы ні баюся, луга ні жалею —*
*дзе я пасаджона,*
*там я зелянею.*
*Улане, улане, чом ні веселішсе?*
*Чы ойца жалееш?*
*Чы вайны баішсе?*
*— Ойца ні жалею, вайны ні баюсе —*
*дзяўчынаньку маю —*
*кідаці думаю.*
*Дзяўчына чарнява ўсю ночку ні спала,*
*усю ночку ні спала —*
*лісточкі пісала.*
*Пісала лісточкі на белум паперы,*
*адсылала лісты*
*ў чацвер па вечэры.*
*— Лецеце, лісточкі, да маго улана,*
*да маго улана,*
*што верне кахала.*

*Улане, улане, чэка це навіна*
*ужэ ж твая дзяўчына*
*парадзіла сына.*
*Коб цебе забрала ліхая гадзіна,*
*як мене зраклася*
*уся мая радзіна.*
*Зроксе мене оцец і зраклася маці —*
*праз цебе, улане,*
*мушу загінаці.*
*— Дзяўчыно, дзяўчыно, дурны розум маеш —*
*чом ты кала себе*
*дахтароў ні маеш?*
*— Дохтар маладзенькі лечыці ні знае,*
*а я, маладзенька,*
*толькі што жывая.*
*— Дзеўчыно, дзеўчыно, Господзь Бог з табою,*
*калі выздраўляеш,*
*вазьму шлюб з табою.*

Ад Анны Трахімчук, 1891 года нараджэння, вёска Лука гм. Нараўка, запісаў 17 жніўня 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.



## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# Марыя і Рыгор Марчукі

Рыгор Марчук ураджэнец вёскі Дубічы Царкоўныя. Яго жонка Марыя родам з суседняй вёскі Грабавец. Працавітыя, дбайныя людзі. Жывуць у Дубічах Царкоўных. Добра гаспадараць. Асноўнымі напрамкамі іх сельскагаспадарчай дзейнасці з'яўляюцца свінагадоўля і вырошчванне бульбы.

Свіней пачалі заводзіць, калі пабудавалі прыгожую прасторную абору. Найперш прыдбалі дзве свінаматкі. Ад іх удаліся добрыя парасяты. 25 падсвінкаў прадалі на далейшы адкорм у мінулым годзе. Ахвотна купіла іх СКР-аўская тучарня ў Палічнай. Цяпер СКР купляе іх у Марчукоў кожную колькасць.

Бульба таксама няблага ўдаецца. Кантрактуюць яе гектар. Пераважна „Флісак". У мінулым годзе прадалі дзяржаве дзесяць тон.

Варта ўспомніць і пра дойныя каровы. Іх тры, але ўсе даюць добрае тлустае малако (у сярэднім 4% тлушчу). Носяць ад іх кожны дзень па 20 і больш літраў малака. Каб не знізілася яго колькасць, гаспадары паклапаціліся і пра кармавыя буракі, сена ды іншую пашу. Купілі механізаваны секач буракоў, электрычны парнік і намераны купіць яшчэ млынок-драбілку.

Абое інсемінатары. За гады накапіўся ў іх вопыт у гэтай справе. Цяпер абслугоўваюць дзесяць вёсак. Прыходзіцца ногі схадзіць за дзень. Але як жа інакш, калі тэлефон за тэлефонам кліча ў дарогу.

Яшчэ пару слоў пра Марыю. У працы не ўступае яна свайму мужу, хоць той не пасядзіць на месцы. Зараз у асенне-зімовы перыяд малоціць людзям збожжа. Купіў уласны рухавік. Што ж, праца карысная, ды й вельмі. А якая выгада тутэйшым сялянам. А Рыгор працы не цураецца.

Ды я хацеў пра Марыю. Яна выконвае рад грамадскіх функцый. Яе выбралі раднай. Яна таксама член грамадскага камітэта ў мясцовым пункце скупкі малака. Яна маці двух сыноў, якія добра вучацца.

Тэкст і фота **Янкі Цялушэцкага**

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

# ЯК НАВАРЫШ...

Задумаўся я над сеймавай пастановай аб пенсіях для старых сялян. Урэшце дачакаліся!

Цяпер як у песні: маладым усюды дарога, а старым пашана. Я сам, для прыкладу, калі меў гадоў 25–30, без ніякай дапамогі браў на плечы мяшок з бульбай і валок яго без перадышкі з поля проста ў пограб, а цяпер разам з Палашкай гэты ж самы мяшок ледзь зможам сцягнуць з воза, каб высыпаць бульбу ў яму.

Такое жыццё. Гадоў прыбывае, а сіл усё менш і менш.

Чуў, японцы патрапяць ужо рабіць каўбасы з вугалю ці нафты. Хто з нас захоча памяняць нават нашу „звычайную" на іхнюю сінтэтычную? Вось у чым галоўны сэнс гэтай сеймавай пастановы! Каб мы, старэйшыя жыхары вёскі, без усялякае боязі за сваю будучыню аддавалі свае гаспадаркі ў рукі болей спраўныя, якія патрапяць на гэтых самых загонах дабіцца ў два разы больш хлеба і мяса. Гэта ж поўнасцю рэальная справа. Прыпомніце сабе, калі ласка, першае пасляваеннае дзесяцігоддзе. То ж тады мала хто ў нашай вёсцы збіраў больш 12–15 цэнтнераў збожжа і 120–150 цэнтнераў бульбы з аднаго гектара. А цяпер? Няма ніякага параўнання. Новыя сілы, новыя метады, новыя імкненні... Вось нядаўна ў нашай гміне адбылася сельскагаспадарчая нарада, у час якой мы супольна рашалі справу, як нам адгукнуцца на гэтую пастанову. Выступіў наш аграном і кажа, што толькі-то а толькі гаспадароў не выканала ў нас свайго плану пакупкі мінеральных угнаенняў, а некаторыя яшчэ нават і не падумалі аб гэтым. „Навошта яны чакаюць?!" — грымеў аграном, называючы вёскі і найбольш адсталых сялян, сярод якіх пачуў я многа сваіх знаёмых, сяброў, аднагодкаў...

Задумаўся я і не пачуў, як у хату зайшоў сусед Сямён.

— Над чым так голаву сушыш? — запытаў ён.

— А вось глянь?! — паказаў я яму выразку з „Трыбуны Люду", дзе быў памешчаны артыкул „У карысць вёскі, у карысць цэлай краіны".

— Я таксама шмат аб гэтым думаў, — прызнаўся мой сусед. — І скажу табе шчыра, што не ўсё тут па маёй думцы, бо выходзіць, што я да дзвюх тысяч наўрад ці дацягну.

Разумею яго. Сямён ніколі багатым не быў. Ад бацькі ў спадчыне атрымаў чвэртку. З рэформы 2 гектары.

— Так мяркуеш? — гавару. — Гэта ж толькі ад цябе залежыць. Як сам сабе наварыш, так і з'ясі. Каб было мінімум, значыць, 15 тысяч злотых, хопіць прадаць дзяржаве адну ялоўку і аднаго парсюка, або паўтары тысячы літраў малака ў год. А ў цябе ж дзве дойныя каровы, тры букаты і бэконаў хіба штук з дзесяць, праўда?

— Ну яшчэ і авечкі, і курэй штук трыццаць жонка трымае, і трускалкі маем...

— Дык палічы ўсё і не наракай, што табе крыўда дзеецца!

— А як ты, Максім, — хітравата запытаў сусед, — збіраешся запрацаваць сабе на пенсію?

— Пакуль што ў нас з Палашкай няма згоды, як вырашыць гэтае пытанне. Яна хоча свіней карміць і парасят разводзіць, а я галасую за букатамі. З імі справа прасцейшая. Летам — на пасбішча, а зімой накарміў, падаслаў і жывіна стаіць. Толькі ў маіх хлявах месца ўжо няма. Добра было б аб новай аборы падумаць. Кажуць, што пазыку ў банку можна атрымаць на вельмі спрыяльных умовах. Толькі ці варта мне старому брацца за такую вялікую справу? То ж да пенсіі асталося ўжо не многа.

— А я ўсё ж куплю яшчэ дзве пары парасят і адну свінаматку! — высунуўшыся з кухні, рашуча заявіла мая Палашка. — Дзеля гэтага не трэба мне ні тваіх абораў, ні пазыкі. Хопіць у клуні адгарадзіць адну палавіну. Толькі ўмову з СКР-ам трэба падпісаць на кааперацыю, каб корм даставілі.

Бачыш, у які бок гне! А можа і праўду кажа мая Палашка? Як вы мяркуеце, людзі добрыя? Ваш

**Максім Нурэцкі**






Заказвала Эва Патроўская з Бельска.




Дарагое Сэрцайка. Мне 19 год. Я вучуся ў Гайнаўцы і жыву з сяброўкай на кватэры ў самотнай удавы. Аднойчы мы пайшлі ў суседнюю вёску на забаву. І там я пазнаёмілася з хлопцам з той жа вёскі. Ён тады быў у водпуску пасля вайсковай прысягі. Ад таго часу, калі толькі прыязджаў з войска, наведваў мяне на кватэры, а таксама прыехаў на вяселле майго брата. А калі мама мая захварэла і яе палажылі ў шпіталь, Янка разам са мной наведваў маму. Маме гэта вельмі спадабалася, была рада, што я з ім хаджу. Мы адно другому давяралі і былі шчаслівыя. Але наша шчасце зруйнавала мая гаспадыня. Аднойчы паехала я да сяброўкі з майго класа. Янка аб гэтым не ведаў і прыйшоў да мяне на кватэру. І мая гаспадыня нагаварыла ўсяляк яму на мяне, усялякіх недарэчнасцей. Даведалася я аб гэтым ад суседак, якія ў той час у яе сядзелі. З Янкам я ўжо не ўбачылася, бо ён тэрмінова паехаў у войска. Хутка атрымала ад яго пісьмо. Ён паверыў гаспадыні. Не прыязджаў ён дамоў і мы яшчэ не бачыліся. Я гаварыла з гаспадыняй. Яна каялася, што так зрабіла. Прыкра мне цяпер у яе жыць, думаю змяніць кватэру. У нас з Янкам яшчэ ўсё не парвалася, мае цяпер да мяне прыехаць. Я вельмі яго люблю, хачу, каб ізноў было між намі як раней. Што яму сказаць, як пераканаць, што гэта ўсё хлусня, што пачуў ад гаспадыні.

Аня з Гайнаўшчыны

Аня! Несур'ёзная і бесталковая твая гаспадыня. Адумалася! Дык цяпер, калі прыедзе Янка, хай у яго прысутнасці перапросіць цябе, хай будзе ёй сорамна. Пляткарства ж — агідная справа. А сур'ёзнага хлопца з намечанай дарогі пляткарскія людзі не звернуць.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Г. з'яўляецца інвалідам ад дзяцінства. Не мае ён сродкаў да жыцця і ніякай маёмасці. Гміна прызнала яму пенсію 1200 злотых у месяц. Г. мае брата на гаспадарцы і таму гміна патрабавала, каб той утрымоўваў брата-інваліда. На аснове дабравольнай умовы брат абавязаўся, што будзе кожны месяц плаціць Г. па 400 зл. Ён мае сваю сям'ю і больш плаціць не можа. Гміна пасля гэтай умовы знізіла Г. пенсію да 800 зл. Г. пытаецца, ці правільна знізілі яму пенсію (у той час, калі наступіла агульнае павышэнне пенсій).

АДКАЗ: Пенсія прыслугоўвае тым, якія дажывуць да адпаведнага веку і маюць адпаведны стаж працы, або тым, якія сталі ў часе працы інвалідамі. Пенсія не прыслугоўвае тым, якія ніколі не працавалі. Пенсія не прыслугоўвае тым, якія ад дзяцінства з'яўляюцца інвалідамі. Аднак, калі гэткая асоба не мае сродкаў да жыцця, гміна прызнае з фондаў грамадскай апекі сталую або часовую дапамогу. Калі ёсць блізкія крэўныя, абавязаныя законам да аліментацыі, у першую чаргу яны павінны ўтрымоўваць інваліда. У нашым прыкладзе гэты абавязак мае брат інваліда — у межах сваіх магчымасцей. Таму правільна гміна патрабавала ад яго, каб утрымоўваў інваліда і знізіла дапамогу на 400 зл. Закон аб пенсіях у гэткіх выпадках не прымяняецца.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Шаноўны пане Астрон! Ты калісь падаваў табліцу спраўджальнасці сноў. Я б хацела ведаць дакладней, ці даты трэба адчытваць так, як яны былі пададзены, ці правяраць паводле старога стылю. Пры нагодзе растлумач мне вось такі сон.

Будавала я дзве хаты. Былі яны дзіўныя, гэтыя мае хаты. Абедзве былі вельмі вузкія і высокія, а таксама — было ў іх поўна дзірак. Каб дзіркі гэтыя не былі відочныя, я пачала абодва дамы абклейваць тапэтамі. Пасля пачала ўбіваць там цвікі і расцягваць па хатах шнуркі. Было іх вельмі многа. На гэтыя шнуркі я вешала пасля бялізну, не памятаю ўжо якую, але была яна белая. Бадай, абазначае гэта похараны? А да таго часта мне сніцца, што я прыбіраю ў хаце, усё мыю. Гэта пацвярджала б, што нехта выселіцца. Але я прыбіраю не ў сваёй кватэры, а ў ранейшай, дзе калісь жыла.

Зося з Беластока

Адказваю на пытанне: даты ў той табліцы былі пададзены паводле старога стылю. Так што, хочучы даведацца больш дакладна пра спраўджальнасць свайго сну, трэба пералічыць на новы стыль.

Што датычыцца сну, дык дом будаваць — хвораму блізкая смерць, здароваму ж — цяжкая праца, клопаты. Вашы клопаты могуць быць звязаны з атрыманнем нейкага неспадзяванага наследства, паколькі вешаць бялізну — абазначае нейкія грошы, наследства. На жаль, наследства людзі атрымліваюць найчасцей у выніку смерці іншага.

**Астрон**

## ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*Мікалай Рошчанка з Белавежы сваё поле абвесіў каляровымі стужкамі. Аднак дзікі іх не баяцца...*

*Фота В. Рудчыка.*

## Куток практычных ведаў




### МАКАРОН

Няма бадай іншага такога прадукту з якога можна падрыхтоўваць столькі розных страў, на такія розныя спосабы, што макарон. Пры гэтым кожная гаспадыня ведае, што гэта стравы амаль заўсёды хуткія і лёгкія ў падрыхтоўцы, смачныя. Асабліва, калі макарон умеем добра зварыць. Добра — гэта значыць не шкадаваць вады, беручы на 10 дэкаў макарону амаль літр кіпеню. Такім чынам: закіпяціць ваду, пасаліць, класці макарон часткамі, каб вада не пераставала кіпець, і, памешваючы, варыць пад адсунутай крышкай (бо інакш выкіпіць) залежна ад формы і велічыні макарону ад 5 да 25 мінут. Адставіўшы з агню, заліць макарон халоднай вадой (шклянку на літр вады, выкарыстанай для варкі) і праз пяць мінут адцадзіць дакладна макарон праз сіта.

Памятайце: макарону нельга занадта доўга трымаць у вадзе, бо ён размякне і стане нясмачным.

### МАКАРОН ПА-ІТАЛЬЯНСКУ

На 25 дэкаў шпагецці трэба ўзяць лыжку масла, соль, чатыры лыжкі сцертага на дробнай тарцы жоўтага сыра, дзве лыжкі зялёнай пятрушкі. У вялікай каструлі закіпяціць тры літры вады і пасаліць. Класці ў кіпень макарон паступова, так каб ён не ламаўся, а скручваўся. Зварыць, паліць зімнай вадой, адцадзіць праз сіта. Палажыць ізноў у каструлю, дадаць масла, вымяшаць. Ужо на талерках пасыпаць сцертым сырам і зялёнай пятрушкай. Да так падрыхтаванага макарону можна падаць кожную вострую салату, яешню, смажаную каўбасу, кураня, ці бараніну з соусам.

### МАКАРОН ПА-КІТАЙСКУ

На 25 дэкаў макарону-ракушак трэба ўзяць лыжку мукі, лыжку масла ці маргарыну, дзве шклянкі булёну, 25 дэкаў пячурыц, 5 дэкаў змеленага ці дробна пасечанага міндаля, соль, перац, лімонны сок, рэшткі печанага мяса, тры памідоры (могуць быць марожаныя), 2 лыжкі смятаны, зеляніну, 2-3 лыжкі цёртага сыра.

Макарон зварыць, як вышэй. Дробна нарэзаныя пячурыцы стушыць з тлушчам. Зрабіць засмажку з мукі і тлушчу, развесці булёнам, дадаць пячурыцы, міндаль, соль, перац і лімонны сок. Памешваючы, закіпяціць. Тады дадаць макарон, дробна нарэзанае мяса і памідоры без скурак. Добра ўсё гэта разагрэць, але ўжо не кіпяціць. Дадаць смятану. На талерках пасыпаць цёртым сырам.

**Гаспадыня**




Фон Хасель паклаў руку на плячо капітан-лейтэнанта Пауліка. У яго голасе гучала амаль бацькоўская цеплыня:

— Вазьміце сябе ў рукі, Паулік. Вы ж афіцэр рэйха!

Памаўчаўшы, ён дадаў:

— А калі мы вернемся на базу, вам няма чаго баяцца. Ніхто не даведаецца, што гэта вы патапілі „Мемель“.

Паулік скінуў руку палкоўніка.

— А мая каманда? А людзі з „Мемеля“? Злачынства, у якое вы мяне ўцягнулі, могуць даказаць дзесяткі сведак!

Палкоўніку ўжо надакучыла няньчыцца з гэтым дзіваком. Ён сказаў тонам сяброўскага папроку:

— Паслухайце, дарагі, няўжо вы лічыце, што я або вярхоўнае камандаванне такія наіўныя? Вядома, і каманду, і выратаваных з „Мемеля“ прыйдзецца расстраляць. Але вас, даю слова афіцэра, гэта зусім не датычыць. Насупраць, вы атрымаеце павышэнне і ўзнагароду. Гэта я вам гарантую.

Паулік нічога не адказаў, але позірк яго, поўны нянавісці, сораму, агіды, прымусіў фон Хаселя адступіць на крок.

— Но-но, Паулік! — вырвалася ў яго.

Моўчкі выйшаў капітан-лейтэнант з каюткампаніі. Палкоўнік, блытаючыся ў сваёй выратавальнай камізэльцы, спатыкаючыся, спяшаўся за ім. Паулік загадаў обер-лейтэнанту Ноермееру сабраць каманду. Павольна, вельмі стомленым голасам пачаў ён гаварыць. Пасля першых жа слоў фон Хасель зразумеў, што адбылася катастрофа. Ён кінуўся паміж капітанам і камандай з істэрычным крыкам:

— Папярэджваю вас, капітан-лейтэнант! Папярэджваю вас! Не слухайце яго... Тое, што ён гаворыць, гэта, гэта...

Палкоўнік не мог знайсці слоў, ён хрыпеў і махаў рукамі.

Паулік моўчкі адсунуў яго і працягваў гаварыць. Ён расказваў матросам праўду аб аперацыі „Мемель“, аб тым, што пасля вяртання іх чакае расстрэл. Цяжка, як удары молата, падалі яго словы.

— Цяпер вы ўсё ведаеце, сябры, — скончыў ён. — Я не магу больш адказваць ні за карабель, ні за ваша жыццё. Я здымаю з сябе камандаванне...

Некалькі секунд цішыні. Капітан абвёў усіх безнадзейным позіркам і павольна пайшоў назад у кают-кампанію. Праз мінуту адтуль пачуўся пісталетны выстрал.

**10**

Выстрал узарваў цішыню. Узняўся страшны шум. Матросы крычалі ўсе адразу, ніхто не слухаў іншага. Гэта ганьба, гэта подласць — расстраляць сваіх дзеля нейкай рэкламы! Камандзіру што — куля ў скроню — і баста, а ў іх жонкі, дзеці... Пагрозы гучалі ўсё мацней, з усіх бакоў фон Хаселя акружалі ненавідзячыя вочы.

Палкоўнік умольна падняў рукі:

— Панове... панове, прашу вас... Панове афіцэры, дзеля бога...

Але афіцэры абыякава стаялі ўбаку. Шчырасць Пауліка ашаламіла іх. Галоўны механік, маленькі тоўсты обер-лейтэнант разгублена, быццам дзіця, круціў галавой. У вачах другога вахценнага, маладзенькага лейтэнанта, свяціўся жах. Нарэшце обер-лейтэнант Ноермеер апамятаўся. Ён гучна скамандаваў:

— Каманда, смірна! Лодкай камандую я! Разыдзіся па месцах!

Але яго ніхто не слухаў. Некалькі старшых матросаў, узрадаваных, што нехта ўзяў камандаванне, паспрабавалі навесці парадак, але іх галасы танулі ў агульным шуме.

Ноермеер зацягнуў палкоўніка ў кают-кампанію. Там, сагнуўшыся на падлозе, ляжаў Паулік. З правай скроні па закінутым вузкім твары працягнуўся цёмны бліскучы струмень. Побач з капітанскай шапкай валяўся пісталет.

— Калі гер оберст дасць слова, што я застануся жывы, я прывяду лодку на базу. — Палкоўнік адчуваў усхваляванае дыханне пастарскага сынка.

— Так, так, вядома. Але як жа вы справіцеся? Вы толькі паслухайце... — фон Хасель кіўнуў галавой на дзверы.

— Я вазьму іх у рукі, гер оберст!

— Вас не паслухаюць, гер обер-лейтэнант.

— Узброю афіцэраў. На лодцы ёсць, акрамя пісталетаў, і аўтаматы.

— Добра, добра. Рабіце ўсё магчымае.

Ноермеер адступіў на крок.

— Такім чынам, слова афіцэра, гер оберст. Са мною нічога не здарыцца, калі мы вернемся на базу?

Палкоўнік даў слова. Тады Ноермеер паклікаў галоўнага механіка і маладзенькага лейтэнанта. Ён растлумачыў, што рэпрэсіі датычаць толькі матросаў і унтэр-афіцэраў. Гэта сумна, але што зробіш? Ім жа, афіцэрам, вядома, нічога не зробяць, гэта гер палкоўнік гарантуе словам гонару.

Афіцэры прагна слухалі.

Калі ў цэнтральным адсеку паказаліся чатыры афіцэры з гатовымі да стралянiны аўтаматамі, усе адразу ж сціхлі.

**(Працяг будзе)**

# Як рыхтуюцца ўрокі

Класны кіраўнік пазніўся і ў класе стаяў неверагодны шум. Гаманілі, рагаталі, перабівалі адзін аднаго, расказваючы, як хто рыхтуе ўрокі...

— Люблю рабіць англійскую мову, — жыццерадасна звінеў тонкі галасок. — У мяне некалі па ёй пяцёркі былі...

— Ха, англійская!! З англійскай мовай і я не пакутую, — азваўся нехта з задніх партаў. — Сусед у нас паліглот. З дыпламатаў, кажуць. Яму з нямецкай ці англійскай перакласці — раз-два. Прашу практыкаванне зрабіць — ніколі не адмовіць. Толькі тады ўжо ў знак удзячнасці мушу з ім у шахматы гуляць...

— А я... сачыненні добра пішу! Асабліва на вольную тэму... Адно маё сачыненне пра рыбалку на школьным конкурсе першае месца заняло!

Той, хто выхваляўся, пераможна зірнуў на свайго суседа ў акулярах і збянтэжана прызнаўся:

— Вось толькі мастак з мяне дрэнны — не магу маляваць, хоць забі! З кім бы наладзіць узаемавыгадны абмен? Я пішу сачыненне — мне малююць...

— Згода! Па руках... Я цябе гэтымі малюнкамі закідаю! Бачыў школьную газету — мая работа.

— Ну, тады дамовіліся...

— Грамадзяне, пашкадуйце і мяне! Вазьміце і нада мной хто-небудзь шэфства: заелі праклятыя задачкі... Толькі дамоў прыйду, не паспею навят падсілкавацца як трэба, не тое, што адпачыць, а мяне ўжо саджаюць за арыфметыку. Калі яшчэ так месяц працягнецца — не вытрымаю, скончу самагубствам, і вы мяне больш не ўбачыце ў гэтым класе! Не верыце? Зірніце, як я змарнеў, схуднеў, на пудзіла падобны стаў...

Грымнуў вясёлы смех: шчуплая постаць пакутніка матэматыкі выклікала шчырае шкадаванне.

У гэты момант раптам пачуўся трывожны голас:

— Ціха, класны ідзе...

Рыпнулі дзверы, увайшоў з журналам сівы настаўнік, павітаўся:

— Добры дзень, шаноўныя бацькі.

Пачаўся бацькоўскі сход.

**Я. Іваноў**



# НІЎКА

## МІКОЛКА

— Міколка, я купіла табе новы падручнік. Глядзі, не запэцкай яго.

— Не хвалюйся, мама, я да яго нават і не дакрануся.

## КАНЕЦ ЦЯРПЕННЮ

Ідуць п'яныя задрыпанцы дарогаю. Адзін і кажа:

— Дружа, што мне рабіць, на мяне слуп ідзе.

— Будзь разумны, абміні.

— Не, хопіць. Я ўжо два абмінуў.



*— Бюро добрых паслуг? Калі ласка, хутчэй прышліце кошку!*

## РАБОЧЫ ШУМОК

Настаўнік-пенсіянер праводзіў урок фізікі. Ён нешта пісаў на дошцы, а вучні адкрылі „кузню": адзін кляпаў, другі грукаў у бляху, трэці нацягваў струны на парту і брынькаў. Пасля званка дырэктар зрабіў настаўніку заўвагу:

— Надта шумна, Мірон Міронавіч... У кабінеце не ўседзець...

— Ну што вы, — пакрыўдзіўся настаўнік. — Рабочы шумок...

*Мой сусед іграе на трубе.*

## З народных усмешак

### МУЖ-ДАБРАДЗЕЙ

Пусціла Галя чутку
між людзей,
што муж яе
вялікі дабрадзей:
— Ён з вышлаты адной
ды змог
мяне адзець
аж з галавы да ног.
— А што ж купіў ён? —
у яе спыталі.
— Панчохі мне і грэбень, —
кажа Галя.

### ВЫКЛІК ПАЛЯЎНІЧЫМ

Адзелася Шурка
У лісіныя шкуркі.
Аж дзве начапіла
І кажа:
— Во сіла!
Спыталі ў дзячыны:
— З якое прычыны
Двух лісаў адразу?..
Чакалі адказу,
Адказ яе сціслы
І нат ваяўнічы:
— Чым больш будзе лісаў,
Тым больш паляўнічых.

Апрацаваў
**Андрэй Лешчанка**



**...Не такі вялікі, як высокі, не так высокі, як шырокі, не так шырокі, як цыбаты, не так цыбаты, як насаты, але ж велічыня, — пляткарылі жабы пра бусла.**



*Сіла пены.*

## ХВОРЫ І КНІГА

Наведвальнік звярнуўся да доктара Знахарука:

— Навошта ўрачы, калі выпускаецца столькі медыцынскай літаратуры?

— Каб хворы не памёр ад якой-небудзь друкаванай памылкі.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Учора на мяне напаў бандыт, але я нават не заявіў у паліцыю.

— Чаму?

— Ён абшукаў усе мае кішэні, уздыхнуў і даў мне долар.

*

На канцэрце.

— Пазнаеш? Бетховен!

— Хм, не ўпэўнена. Пачакаем, пакуль ён павернецца тварам да публікі.

*

На станцыі пасажыр выходзіць з вагона і накіроўваецца ў буфет падсілкавацца. Перад тым, як выйсці, ён глядзіць на нумар свайго вагона, каб потым хутка яго знайсці.

— 1492. Цудоўна, — гаворыць ён, — такі нумар проста запомніць. Гэта год адкрыцця Амерыкі.

Праз некалькі хвілін пасажыр вяртаецца і ветліва пытае ў служачага чыгункі:

— Прабачце, мсье, ці не ведаеце вы, калі была адкрыта Амерыка?





## НА СЕНАКОСЕ

Чатыры гультаі сабраліся на сенакос. Жонкі выйшлі іх праводзіць. Дайшлі да ракі, а лодкі, каб пераехаць, няма, толькі бервяно паблізу плавае. Надоўга думаючы, усе чацвёра селі на яго, а каб не перакуліцца, знізу прывязалі сябе аборкамі ад лапцяў. На сярэдзіне ракі бервяно перавярнулася, і ўсе гультаі апынуліся ў вадзе. Адна жанчына доўга ўзіралася, а потым і кажа:

— Зірніце, жанкі: мужыкі нашы яшчэ і да берага не даплылі, а ўжо лапці сушаць!

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*По просьбе Крыстыны Давідоўскай з Беластока змяшчаем песню*

# ВЕЧЕРЬ НА РЕЙДЕ

*Слова А. Чуркина*
*Музыка В. Соловьева-Седого*

Споемте, друзья, ведь завтра в поход
Уйдем в предрассветный туман.
Споем веселей, пусть нам подпоет
Седой боевой капитан.

Припев:
Прощай, любимый город!
Уходим завтра в море.
И ранней порой
Мелькнет за кормой
Знакомый платок голубой.

А вечер опять хороший такой,
Что песен не петь нам нельзя.
О дружбе большой, о службе морской
Подтянем дружнее, друзья!

Припев.
На рейде большом легла тишина,
А море окутал туман.
И берег родной целует волна,
И тихо доносит баян.

Припев:
Прощай, любимый город!
Уходим завтра в море.
И ранней порой
Мелькнет за кормой
Знакомый платок голубой.



*Без слоў.*

## ПІЛА

Кастусь шукаў у сенях пілу, не знайшоўшы яе, крыкнуў:

— Жонка, дзе наша старая піла?

І адразу ж раздаўся голас цёшчы:

— Калі я і піла, то не такая ўжо старая!

# Курёзы

## МУЖЧЫНЫ ЭМАНСІПІРУЮЦЦА

Джон Кааліпс — першы ў Злучаных Штатах мужчына, які мае дыплом сядзелкі-акушэркі.

У 1970 годзе ён паступіў на курсы сясцёр-акушэрак, ніколькі не бянтэжачыся, што стане піянерам сярод мужчын на гэтай ніве.

Джон упэўнены, што яшчэ доўга будзе заставацца адзіным прадстаўніком моцнага полу ў радах акушэрак, а між тым, лічыць ён, мужчыны павінны і могуць узяць на сябе частку цяжару, які выпадае на долю „слабага полу".

## КОНЬ СУПРАЦЬ... ВЕЛАГОНШЧЫКА

Факір ду Віўе, адзін з самых рэзвых коней Еўропы, лёгка перамог у „спаборніцтве" на дыстанцыі 1 кіламетр... чэмпіёна свету сярод велагоншчыкаў - прафесіянала Фрэдзі Мертэнса (Бельгія).

Конь пераадолеў зададзеную адлегласць на іпадроме за 1 мінуту 12,2 секунды, а веласіпедыст значна прайграў яму. Пасля фінішу Мертэнс апраўдваўся: „Усё спрыяла майму сапернiку-каню: звыклая дыстанцыя, больш зручныя для Віўе павароты". Жакей Пьер-Дэзірэ Алер, які ездзіць на гэтым рысаку, напомніў: „Яшчэ да старту я гаварыў Фрэдзі, што ён не зможа перамагчы Факіра". Але галоўнае заключалася, вядома, зусім не ў тым, хто менавіта з гэтых дваіх „канкурэнтаў" пераможа: ужо да „спаборніцтва" выйграў бізнес — білеты на гэты „турнір" купілі чатыры тысячы цікаўных.





**Палавіна праўды — гэта ўжо хлусня.**